Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 52 (103). Вільня, Серада 6 Ліпня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Тварам да сялянства!

Мы памятаем, як прабабка сучаснае „Нашае Праўды“ імкнулася закідаць гразёю арганізацыю Бел. Сялянскага Саюзу на самым яго пачатку. Чаго толькі тагды не пісалася?... Але-ж жыцьцё мацнейшае за ўсе выдумкі „наша-праўдаўскіх“ пісакаў, дык цяпер ім ужо прыходзіцца ня толькі на словах, але-ж і на самай, што ні ёсьць, вачавіднасьці бачыць, што Беларускі Сялянскі Саюз—не якая-колечы фікцыя, а рэальная рэч, якая аканчальна пабівае дэмагогію і выбівае грунт з пад „Нашае Праўды“. Кожны, хто толькі сочыць за падзеямі і разьвіцьцём палітыкі сярод розных прыхвасьняў, можа заўважыць дужа цікавае зьявішча, гэта тое, што кожны падшыванец імкнецца падлабуніцца да сялянства. Гэтае дурніцкае зьявішча ў адносінах да іншых рожнага роду сялянскіх спэкулянтаў нас зусім дзівіць ня можа, але-ж калі прыгледзецца да „Нашае Праўды“, дык хочацца гэтае знаменацельнае зьявішча разгледзець неяк падрабязьней і стараньней.

Увесь падход „Нашае Праўды“ да сялянства над фірмаю „агульнага руху працоўных мест і вёсак“, усё-ж такі паказвае толькі адно, што ня гледзячы на ўсе тэзы „Нашае Праўды“, яна ня можа стварыць сынтэзы сваей працоўнае, сялянска-работніцкае ідэалёгіі. У яе можна заўважыць разам і нешта камунізуючае і нэйтральнае да камунізму і вось гэтае нявыразнае аблічча „Нашае Праўды“ змушае нас на старонках сялянскае клясавае газэты абгаварыць некаторыя дэталі.

Беларускі Сялянскі Саюз бязумоўна займае выразнае становішча сярод беларускага грамадзянства. Ідэяй яго зьяўляецца—аб'яднаць беларускае сялянства на незалежніцкім нацыянальным грунце, аб'яднаць тых, хто зьяўляецца пакрыўджаным, каб супольнымі сіламі дамагацца і тварыць направу быту і адхіліць тыя нацыянальныя і сацыяльныя крыўды, якія мы дазнаём... Праграма Беларускага Сялянскага Саюзу падрабязна і ўсебакова гаворыць аб гэтым а гэтым самым творыцца сынтэза сялянскае ідэалёгіі.

„Наша Праўда“ на гэта не здабылася, бо заклікаючы беларускае сялянства ісьці за сабою не паказвае мэтаў і шляху да зьдзейсьненьня іх. Паўтараю, што „Наша Праўда“ са сваей „працоўнай“ работніцка-сялянскай ідэалёгіі робіць мяшанку: яна сіліцца выявіць і нацыяналізм і інтэрнацыяналізм і марксізм і дэмакратызм; адным словам і камунізуе і нэйтралізуе, а ў рэзультаце стварае мазьню. Сам назоў „працоўнасьці“ выклікае шырокае паняцьце. Пад назовам „працоўны“ разумеецца той, хто працуе, а хто-ж жыве бяз працы? І вось, пры гэтакім нявыразным нацыянальным і сацыяльным абліччы „Нашае Праўды“, мы трэбуем ад яе кіраўнікоў паказаць свой запраўдны твар; даволі маскаваньня і дэкаратызму!?

Пакажыце сябе, каб можна было пазнаць вас, хто вы? ці вы Беларусы ці Нэгры з Афрыкі?

## НОВЫЯ АРЫШТЫ БЕЛАРУСАЎ.

Перад самай Каранацыяй Вастрабрамскага абразу, у дзень прыезду ў Вільню Прэзыдэнта Польшчы, Старшыні Рады Міністраў Марш. Пілсудскага, міністраў, высокіх саноўнікаў, каталіцкага духавенства, войска, стральцоў, сакалоў і іншых, у Вільні адбыліся арышты Беларусаў. Арыштавалі: **д-ра Ігната Дварчаніна, гр. Маразовіча, гр. Грышкевіча, гр. Мэнке, гр. Мамоньку, гр. Касьцевіча і гр-ку Н. А. Сіняўскую.** Двух апошніх звольнілі з вастрогу у дзень арышту, а ўсіх іншых аставілі на казённым хлебе. Усіх арыштованых быццам вінавацаць у нейкім ні-то замаху на „Каралеву Кароны Польскай“ ні-то на Прэзыдэнта або на польскі ўрад, які прыехаў на каранацыю.

Каб зразумець на колькі гэтыя арышты былі беспадстаўнымі, беззаконнымі і кампрамітуючымі польскі ўрад, ніжэй падаём наступны факт, аб якім мы даведаліся з вуснаў арыштованай гр-кі Н. Сіняўскай.

Гр-ка Н. Сіняўская заявіла, што дня 28-га чэрвеня, перад Пятром, у ейную кватэру зьявіўся сышчык Zygmunt Mrajski і пад сэкрэтам радзіў г-цы Сіняўскай выехаць, дзе нібудзь на правінцыю, на якія тры дні, бо, ў праціўным выпадку, яе спадкае няпрыемнасьць. Ня чуючы за сабой ніякай віны (трэба ведаць, што г-ка Сіняўская наагул не працуе ў ніякіх палітычных арганізацыях) г-ка Сіняўская зусім ня думала паступіць за радай сышчыка, але зьвярнулася ў Ваяводзтва, дзе за атсутнасьцю начальніка аддзелу бяспечнасьці была прынята сэкрэтаром ваяводы. Сэкрэтару ваяводы гр-ка Сіняўская расказала факт аб навясьціўшым яе сышчыку і прасіла выясьненьняў. Сэкрэтар ваяводзтва заяву Сіняўскай абярнуў у шутку і сказаў, што нічога ёй ня станецца. Апрача гэтага гр-ка Сіняўская зьвярталася ў свой камісарыят паліцыі і таксама заявіла там аб „добрай радзе“ сышчыка Мрайскага. І тут быў такі самы адказ як і ў ваяводы. Зусім пэўная таго, што можа быць зусім бясьпечная гр-ка Сіняўская вярнулася да хаты. Аднак за пару дзён, у пятніцу 1-га ліпня, у дзень арышту д-ра Дварчаніна, Грышкевіча, Маразовіча і іншых у кватэру гр-кі Сіняўскай зьявіліся паліцыянты з нейкім у цывільнай вопратцы (сышчыкам) і заявілі, што па загаду ўлады маюць у яе зрабіць рэвізію. Тут адразу гр-ка Сіняўская заявіла прадстаўнікам польскае ўлады, што ўжо адзін сышчык пару дзён таму назад быў у яе і ўпярэдзіў аб гэтым, і што яна зрабіла адпаведную інтэрвэнцыю ў ваяводзтве.

Пачуўшы гэта, польскія старажы ладу і парадку перасталі рабіць рэвізію, а толькі забралі з сабой гр-ку Сіняўскую і адвезлі ў Ігнатоўскі вастрог. У вастрозе спаткаў вельмі ветліва гр-ку Сіняўскую нейкі высокі ўрадовец і пачаў яе дапрашываць. Пры дапросе выясьнілася, што сышчык Zygmunt Mrajski, той самы, што прыходзіў нагарваць гр-ку Сіняўскую, каб яна выехала на 3 дні з Вільні, напісаў на гр-ку Сіняўскую данос, што быццам у гутарцы з ім яна прызналася, што зьбіраецца разам з іншымі Беларусамі зрабіць замах на Каранаваньне Вастрабрамскага абразу Каралевай Польскай Кароны і на польскі ўрад.

## Падзеі у Кітаі.

Ваенныя падзеі ў Паўночным Кітаі, па апошнім весткам, маюць рашаючы характар.

У правінцыі Шантунг паўночныя арміі адступілі да чыгункі на лініі Нанкін-Цянь-Ззінь да Енчоў, дзе стараюцца затрымацца пры рэчцы Чыха, каб устрымаць далейшае наступленьне Чанг-Кай-Шэка і ўратаваць сталіцу Шантунга Цынан-Фу.

Ваенныя аддзелы паўднёўцаў зьявіліся ўжо ў 25 кілямэтрах ад Енчоў у Вялікага каналу. Наступленьне Чанг-Кай-Шэка спатыкае вялікія перашкоды, бо паўночныя арміі разьбіраюць чугункі, заліваюць станцыі і твораць розныя спусташэньні. На абодвух бакох вялікія страты.

Армія Чанг-Тсо-Ліна ў сучаснасьці адступіла ад Жоўтае ракі на поўнач ў кірунку Пэкін-Цян-Дзінь. Думаецца, што армія займе новыя пазыцыі паміж Ці-Кан-Фу і Чангчоў, у 100 кілямэтрах ад Пэкіну.

## Самалётам з Амэрыкі у Эуропу.

Амэрыканскі лётнік Бірд на самалёце „Амэрыка“ з двума пасажырамі, маючы радыё-апарат, пераляцеў з Нью-Ёрка ў Эўропу.

Пры гэтым, калі Бірд ужо зьбліжыўся да самае мэты, дык чакала яго няпрыемнасьць, бо з прычыны імглы, прыляцеўшы над Парыж аб 12 гадзіне ночы ён ня мог спусьціцца на лятніска, а гэткім чынам зблудзіўшы пачаў апісваць зігзагі навокал Парыжа.

У Парыжы, каля лятніска ўжо сабраўся вялікі натоўп цікавых, але-ж была атрымана ад Бірда радыё-тэлеграма аб тым, што ён ня ведае дзе спусьціцца. Падаваныя сыгналы нічога не памаглі, бачыць іх лётнікам перашкаджала імгла.

У рэзультаце—Бірд упаў у мора, але на шчасьце блізка берагу, дык мог ўратавацца як сам таксама і яго пасажыры.

Цераз дзьве гадзіны Бірд і яго калегі прыехалі, але ўжо чыгункаю ў Парыж. Апарат выцягнулі на бераг, які хоць моцна ўшкоджаны, але-ж магчыма яшчэ направіць. Бірд, гэта той лётнік, які на самалёце дасягнуў да паўночнага полюса.

Парыж прывітаў яго з надзвычайным энтузіязмам.

СЯЛЯНЕ! На раённых сабраньнях дамагайцеся тайнага галасаваньня!

# Польскі імпэрыялізм.

Газэта „Słowo“, выдаваная польскімі абшарнікамі, што падтрымліваюць цяперашні буржуазны ўрад, зьмясьціла ў адным з нумараў скарочаны артыкул А. Бахэнскага, надрукаваны ў львоўскай часопісі „Myśl Mocarstwowa“. Ніжэй падаём частку гэнага артыкулу.

Затрымаўшыся падрабязна на нацыяналістычным імпэрыялізьме, які праводзе польская эндэцыя з Р. Дмоўскім на чале, аўтар прыходзе да вываду, што гэты імпэрыялізм зводзіцца да палянізацыі ўсходніх зямель. Далейшаму далучэньню тэрыторыяў эндэкі працівяцца, бо іх „Польшча не магла-б ператравіць“. Аўтар піша: Польшча стаіць, раней ці пазьней, перад фактам вайны з Расеяй і Нямеччынай. Задачай замежнай палітыкі зьяўляецца падгатоўка да гэтай цяжкай вайны, у якой 30 міліённая Польская дзяржава будзе між 60 міліённай Нямеччынай і 100 міліённай Расеяй... Абайсьціся без саюзьнікаў, рэч ведама, Польшча ня можа... Кідаецца проста ў вочы, што Беларусы і Украінцы маглі-б у гэтай вайне стаць на бок Польшчы. Цэнтральныя імкненьні гэтых народаў маглі-б паставіць пад знакам запытаньня наагул далейшае істнаваньне рускае дзяржавы. Палітычная дуэль між Польшчай і Расеяй за тое, хто зможа перацягнуць на свой бок гэтыя народы пачалося ўжо на нашых вачох...

Палажэньне-ж Польшчы будзе вельмі небясьпечным да той пары пакуль яна: 1) не падыме значна свае дзяржаўныя сілы, 2) не аслабіць адначасна сілы сваіх ворагаў — іначай у недалёкай будучыне Польшча можа апынуцца ў крытычным палажэньні.

Нямеччына мае прэтэнсіі толькі на заходнія правінцыі, затое Савецкая Расея хацела-б захапіць усю Польшчу. На Эўропу не заўсёды можна разлічаць. Абодвух мэт можна дапяць толькі пры помачы дзяржаўнага імпэрыялізму. Першы пастулят мае на мэце зьмяньшэньне, за ўсякую цану магутнасьці Расеі. Што датычыць Нямеччыны—спроба вайны выказала, што зьмяншэньня яе сілы дапяць вельмі цяжка, і то не надоўга; магчыма толькі зьмяншэньне небясьпекі, — а гэта немагчыма без магутнага павялічэньня нашай сілы коштам Расеі. Зьмяншэньне-ж сілы Расеі можа быць дапята толькі ліквідацыяй расейскай дзяржаўнасьці пры пасярэдніцтве нацыянальных руxаў і павялічэньнем Польшчы, г. зн. дарогай правядзеньня польскага дзяржаўнага імпэрыялізму. Разьбіцьцё Расеі і стварэньне агульнага інтарэсу ў маладых „крэсавых“ народаў і Польшчы—гэта вялікая аснаўная думка нашай дзяржаўнасьці. Зьдзейсьненьне яе—гэта магутная ягелёнская дзяржава ад Адэсы і Харкава да Мэмэлю і Коўны; яе няўдача—гэта пэрспэктыва блізкай ці больш далёкай канчыны Польшчы між Расеяй і Нямеччынай...

Мы асноўваючыся на традыцыі Ягеллаў і на прыгожых прыкладах гісторыі, хочам жыць згодна з сумежнымі народамі. Хочам даць ім нацыянальнае аб'ядненьне. Павінна быць поўнае раўнапраўе народаў. Галоўнаю спайкаю павінен быць супольны проціpускі інтарэс, а маральна супольная дынастыя.

Гэты артыкул Бохэнскага вельмі характэрны для польскай дзяржаўнай думкі. Але гэтая думка, астанецца толькі лятуценьнем аб „мацарствавай“ ролі Польшчы ў Усходняй Эўропе, бо практыка незалежнай Польшчы выказала, што яна ня можа і ня будзе жыць у згодзе з сумежнымі і падуладнымі народамі, а затым роля яе будзе што-раз зьмяншацца на карысьць новага пляну — незалежнасьці ўсіх народаў быўшае імпэрыі, на чале якіх стануць не ўрады буржуазныя, а ўрады працоўных сялян і работнікаў.

# Абнаўленьне Нацыянальнага Камітэту.

Аднэй з найважнейшых беларускіх установаў у Вільні ёсьць Беларускі Нацыянальны Камітэт. Камітэт узьнік яшчэ ў 1919 г. і прадстаўляе сабой арганізацыю, якая абыймае беларускія ўстановы. Пакуль старшынёй камітэту быў гр. пас. Ярэміч, пакуль ня было зусім непатрэбнай грызьні між беларускімі партыямі і арганізацыямі, датуль Камітэт быў паважнай арганізацыяй, бо зьяўляўся прадстаўніком беларускага грамадзянства і адначасна лучыў у сабе ўсе нацыянальныя беларускія сілы.

Але леташні год быў першым годам, які налажыў на Беларускі Нацыянальны Камітэт быццам жалезныя аковы і ня даў яму магчымасьці весьці беларускую нацыянальную працу. Прадстаўнікі с. п. „Грамады“, карыстаючыся невялічкай большасьцю не далі магчымасьці іншым беларускім партыям, як: Беларускі Сялянскі Саюз, Беларуская Хрысьціянская Дэмократыя, прыняць удзел у працы Камітэту, бо захапілі ў свае рукі ўвесь чыста склад прэзыдыуму Камітэту. Такім чынам, увесь год Камітэт ня выявіў сябе беларускай нацыянальнай працай, на'т ня мог прыняць удзелу ў урачыстым сьвяткаваньні 25-га сакавіка 9-тых угодкаў абвешчаньня нкзалежнасьці Беларусі. Мала гэтага, ходзяць чуткі, што прэзыдыум Камітэту, (не прызнаны іншымі беларускімі партыямі), ня склікаючы паседжаньня Камітэту, падаваў на'т мэмарыялы, кампрамітуючыя беларускі адраджэнскі рух. Трэба ўсяму грамадзянству ведаць, што ў працягу больш як году (1 год і 3 месяцы) ні аднаго разу не адбыўся агульны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Такі стан рэчаў прымусіў іншыя беларускія партыі зьвярнуцца ў камітэт з дамаганьнем скліканьня агульнага сходу Камітэту. На адно з дамаганьняў Беларускага Сялянскага Саюзу, якое было паслана ў Камітэт перад сьвяткаваньнем угодкаў незалежнасьці гр. Савіцкі пазволіў сабе даць іранічны адказ, які закончыўся такімі славамі:

„...прэзыдыум Б. Н. К. ня можа ня выразіць свайго зьдзіўленьня з таго ўльтыматыўнага тону звароту Беларускага Сялянскага Саюзу да Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў справах, якія ў сутнасьці сваей носяць дзелявы і звычайны характар“.

Ня гледзячы на такі нетактоўны адказ гр. Савіцкага, пас. Рагуля, як прадстаўнік Сялянскага Саюзу, яшчэ раз зьвярнуўся да гр. Савіцкага з дамаганьнем скліканьня агульнага сходу Камітэту. Праўда, гр. Савіцкі дужа ветліва дакляраваў склікаць Камітэт у часе да 1-га чэрвеня. Але прайшоў 1-шы чэрвень і 15-ты і 20-ты, а сходу як няма, дык няма!...

Такі стан рэчаў парадзіў сумліў у сяброў Камітэту, што людзі, якія фармальна лічацца ў прэзыдыуме ня могуць выконваць сваіх статутовых абавязкаў перадусім дзеля таго, што адзін з іх быў арыштаваны яшчэ ў студзеню і дагэтуль ня звольнены, а два апошнія, ня маючы арганізацыі, якая іх выставіла ў прэзыдыум Камітэту (Грамада ўрадова зліквідавана) ня могуць самі на сваю адказнасьць склікаць Камітэту.

Прымаючы пад увагу такі стан рэчаў, які пагражаў магчымасьцю ліквідацыі камітэту, група сяброў камітэту, дбаючы аб утрыманьні камітэту як беларускай нацыянальнай арганізацыі, пастанавіла склікаць агульны сход Камітэту. Ува ўсіх дэмакратычных статутах арганізацыяў прадбачаны параграф, на аснове якого, ў выпадку, калі прэзыдыум ня можа або ня хоча склікаць агульнага сходу, пэўная частка сяброў арганізацыі мае права сама выступіць з ініцыятывай скліканьня агульнага сходу. У даным выпадку было ўсё зроблена паводле статуту, былі разасланы запросіны на сход Камітэту ўсім беларускім самастойным арганізацыям. У выніку гэтых запросінаў на агульны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту зьявілася 15 прадстаўнікоў ад сямёх рожных арганізацыяў, а частка запрошаных

# Показка аб сучаснасьці.

Вёска Галышкі атрымала свой назоў не прыпадкова. Іначай назваць яе нельга. Разгнездзілася яна на пяшчанай горцы, дзе ніякае дрэва, апрача сасны, ёлкі ці ялаўцу расьці ня можа, а дзеля таго, што хваёвыя дрэвы для дамашніх пасадкаў не падходзяць, дык у Галышках на ўсю вёску ніякае дрэвавае расьлінкі няма. Дык вось чаму Галышкі называюцца гэтак!...

За поўвярсты ад вёскі прабегае вузенькаю істужкаю рэчка Цьвяроза, паміж балоцца парослага лазьняком ды вольхаю.

Чаму і навошта гэтая істужачка вады называецца рэчкаю Цьвярозаю і чаму Галышкі замест таго, каб пабудавацца ў даліне бліжэй рэчкі зьвілі свае гнёзды на пяшчанай горцы, ніхто яшчэ не даведаўся.

У сувязі з гэтым парадзілася лягенда, якая ходзіць тут, як жывое апавяданьне, і ў праўдзівасьці яго ніхто не сумляваецца. Лягенда гавора, што першы чалавек, які залажыў асаду на месьце вёскі Галышкі меў раматус у нагах, дык толькі дзеля гэтага, выбіраючы мясьціну для жыльля, як можна сушэйшую, асеў на горцы. Разумеецца, што яго наступнікі, хоць і без раматусу, але не хацелі, ці мо' не маглі перасяляцца ў даліну і пашыралі асаду на горцы.

Адносна рэчкі Цьвярозы, дык пераказвалі гэтакае апавяданьне. Быццам адзін малады хлапец Зьмітрук закахаўся ў прыгожанкую дзяўчынку Алесю з Арлоў, з вёскі, якая стаіць на другім беразе рэчкі, за тры вярсты на поўнач ад Галышкоў.

Прыгожасьць псуе чалавека, гэтак гавораць у тых вёсках. Гэтая прыказка паўстала ад таго часу калі была ахрышчана, дагэтуль безымянная рэчка Цьвяроза; ад таго здарэньня, якое дало ёй гэтакі назоў.

Алеся, Зьмітруковая каханка, мела тварык, зусім падобны на малюнкі, якімі зазначаюць ангелаў. І хто-ж мог-бы паверыць гэтаму, што Алеся з ангельскім тварыкам, мела сэрца з капрысным пачуцьцём. Але-ж ці вінавата яна ў гэтым, што прырода дала ёй прыгожасьць твару на тое, каб яна, гэтая прыгожасьць сталася прычынаю, якая пакалечыла яе маладую душу.

Было ўсё вельмі проста і дзіўна... Алеся, як і ўсякая дзяўчына, рана пачала думаць аб тым, каб найсьці сабе пару. Пачалося ад ідэалу. Яна думала пакахаць таго, хто пакахае яе, адказаць першым на першае каханьне. І болей нічога. Багацьце яе маніла яе, турботы жыцьця ня страшылі. Чалавек ня можа прапасьці: ён заўсёды і ўсюды, калі толькі будзе працаваць, здабудзе кавалак хлеба, гэтак камбінавала Алеся сваім маладым розумам.

І ўсё было-б добра, калі-б ня сталі на яе жыцьцёвым шляху дзьве рэчы: спакуса і... мана. Спакусу пакінулі ёй людзі, а ману радзіла спакуса. Калі толькі Алеся падрасла, дык яе прыгожанькае абліча зьвярнула на сябе ўвагу людзей, якія не цэрамоніліся выказаць гэта. Пахвала, якую чула Алеся ад людзей, параджала ў ёй думку, што яна і запраўды лепшая ад іншых. А калі гэтак, дык і хлапец, якому яна аддасьць сваё каханьне і самую сябе, павінен быць лепшым за другіх. І на гэтай плошчы разыграліся дзьве трагедыі. Доўга не магла Алеся выбраць сабе па сэрцу, хоць хлапцы прыхіляліся да яе, як мухі да мёду. Не находзячы лепшага, Алеся неяк быццам пагадзілася з тым, што трэба кахаць Зьмітрука з Галышок, з якім зазнаёмілася яна на Вадахрышчы.

Усім сваім розумам і пачуцьцём аддаўся Зьмітрук Алесі і... атрымоўваючы на прывітаньне спагад ня мог пражыць дня, каб ня ўгледзіць каханую Алеську. А Алеська, і кахала і не... сама добра ня знала!?...

Гады неяк уцякалі, трывога агартала яе, каб не засядзецца дзяўчынаю. Дрэнна будзе, калі міне 20 гадоў дзяўчынаю!... Тагды можна астацца старою цёткаю без красы, бо дзявочая краса, па яе думцы, толькі да 20 гадоў...

І вось — з аднаго боку пэўнасьць, што яна лепшая ад другіх, а цераз гэта ня можа ісьці замуж абы за каго, а з другога боку страх засядзецца дзяўчынаю разрываў пачуцьцё, баламуціў розум і не даваў магчымасьці прыстаць да берагу.

І гэтак стукнула такі Алесі ў дзявочым стане круглая двaццатка!... А стукнуўшы парадзіла новае пачуцьцё, што, калі выходзіць замуж, дык за гэтакага, каб быць забясьпечанай матэрыяльна. Матэрыялізм перамог ідэальнасьць юнацкіх думак. Дык толькі дзеля гэтага, калі панскі эканом з маёнтку адчыніў дзьверы і пераступіў парог Алесінае хаты, каб... забраць Алесю, яна ахвотна аддалася яму і не асталося ў яе сэрцы нічога для Зьмітрука, якога калі-некалі ўсё-ж такі кахала!...

І калі Зьмітрук прышоўшы пад Алесіную хату, каб, як заўсёды, пабачыць сваю найдаражэйшую Алесю, даведаўся, што Алеся ўжо не яго, дык горача сталася на сэрцы і цёмна у галаве. Зьмітрук, сам ня свой, вярнуўся і пашоў назад, цашоў страціўшы найлепшае на сьвеце. Па дарозе з Арлоў у Галышкі трэ' было пераходзіць кладкаю цераз рэчку... Свабодна і лёгка заўсёды пераходзіў Зьмітрук, але сёньня пасьлізнуўся... Пасьлізнуўся на кладыцы, гэтак сама як і ў жыцьці, але пасьлізнуўся на кладцы дзеля таго, каб падняцца у жыцьці. Змітрук пасьлізнуўшыся упаў у рэчку... Выкупаўшыся ў яе халоднай вадзе, ён адчуў, што ня толькі цела, але і сэрца пахаладала, а ў галаве паясьнела. Часта здараецца гэтак, што не чакае здарэньне зрабіць раптоўны і радыкальны пераварот на лепшае у псыхіцы чалавека... Гэтак сталася і з Зьмітруком. Ён быў пьяны, але рэчка зрабіла яго цьвярозым, за гэта ён ахрысьціў яе гэтым іменем. Алеся ня была шчасьліваю замужам, бо сэрца ня мела пачуцьця - каханьня, ідэалізм і матэарыялізм двоілі яго. А нарэшце давяло сэрца Алесю да рэчкі Цьвярозай, каб у яе халодных і чыстых хвальках найсьці вечны спакой.

Пісаць аб гэтым больш ня буду, бо не бяру мэтаю майго апавяданьня гэную трагэдыю. Ёсьць на гэта нешта іншае; вось яно.

Вялікі кавалак часу прайшло ад таго здарэньня, многа вады ўцякло ў рэцы цьвярозай. Вёска Галышкі дажыла да нашых дзён. Беды, няшчасьці, цяжары, турботы, нэндза і галіта не абмінулі Галышкоў. Усе сучасныя жорсткія красачкі растуць на яе пяшчанай горцы, сярод хатаў ня маючы ні ценю, ні зацішку...

Можа з дзесятага пакаленьня па Зьмітраку ў сучаснай вёсцы Галышкох жыве Тамаш і Пятрук—маладыя хлапцы. І іх сэрцы, як некалі сэрца Зьмітрука, поўнае, паўнют-

арганізацыяў не прыслала сваіх прадстаўнікоў. Праўда, на дзень раней агульнага сходу Камітэту адбыліся арышты, што вельмі няпрыемным рэхам адбілася на сяброў прысутных на агульным сходзе, але ярказ арыштаваныя ня былі сябрамі Камітэту і затым арганізацыі маглі або прыслаць сваіх прадстаўнікоў, або прасіць адлажыць сход. Калі гэта ня было зроблена, дык сход зусім у праве быў лічыць сябе правамочным і выбраць прэзыдыум Камітэту.

Нававыбраны прэзыдыум на чале з агульна паважаным сэн. Багдановічам, як асобай бесстароннай, пэўне-ж зьвернецца да арганізацыяў, якія не прыслалі сваіх прадстаўнікоў на агульны сход, з прапазыцыяй прыслаць сваіх прадстаўнікоў у Камітэт. Той ці іншы адказ на гэткую прапазыцыю будзе гаварыць аб тым, на колькі магчыма супрацоўніцтва ў Камітэце паміж істнуючымі ў Вільні беларускімі арганізацыямі. Ня будзем старацца адгадаць становішча тых арганізацыяў. Недалёкая будучына адкажа на гэта. Але бяссумліву выясніцца, на сколькі беларускія арганізацыі чуюць між сабой свайство і насколькі могуць яны супрацоўнічаць супольна ў рамах хаця-б Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Канчаючы на гэтым увагі адносна абнаўленьня Камітэту, можам толькі ад душы пажадаць Камітэту карыснай працы на полі аб'яднаньня сапраўды беларускіх нацыянальных арганізацыяў!

Няхай-жа нарэшце беларускае грамадзянства мае сваё нацыянальнае прадстаўніцтва ў асобе Віленскага Беларускага-Нацыянальнага Камітэту!

Сябра.

# З жыцьця Польшчы.

## Справы зьмены выбарнага закону.

Новы праект зьмены выбарнага закону апрацаў пасол Попель. Гэты праект будзе разглядаць Канстытуцыйная падкамісія. Праектуюцца такія зьмены, каб пры новых выбарах у Сойм і Сэнат забясьпечыць польскасьць на нашых і ўкраінскіх землях. Згодна гэтаму праекту некаторыя выбарчыя акругі на ўсходніх „крэсах" злучаюцца. Падрабязныя весткі праектаў падамо пасьля разгляду яго падкамісіяй.

## У справе адказу на ноту Саветаў.

З Масквы прыехаў у Варшаву польскі пасол п. Патэк і канфэраваў з марш. Пілсудскім і мін. Залескім у справе адказу на другую савецкую ноту з прычыны забойства Войкава. Пасол Патэк у гутарцы з прадстаўнікамі прэсы сказаў, што яго перагаворы з савецкім камісарам Чычэрыным — на добрым шляху. Магчыма паразуменьне, а нават і ўзнаўленьне перагавораў аб узаімнай гарантыі бяспечнасьці.

## Заграні́чная пазычка.

Амэрыканскі банковы консорцыум падпісаў умову аб пазычцы для Польшчы на 15 мільёнаў даляраў. Прадстаўнік польскага ўраду падпіша пазычку гэтымі днямі.

Як ведама, польскі ўрад з самага пачатку хацеў пазычыць аж 150 мільёнаў даляраў, але-ж неяк вышла, што фактычна зьдзейсьніў толькі 10 проц. сваіх жаданьняў. Ёсьць весткі, быццам вялікшую пазычку Польшча атрымае ад Амэрыкі ў восень г. году.

## Весткі з Лодзі.

Паміж работнікамі і працадаўцамі на ткацкіх фабрыках ідуць спрэчкі аб вотпусках на летні адпачынак. Работніцкіх дамаганьняў працадаўцы ня хочуць задаволіць. Часткова спрэчкі ліквідуюцца пасярэдніцтвам інспэктара працы.

Па загаду камісара ўраду сканфіскавана часопісь вольнадумцаў за артыкул „Пагроза вайны". Выдаўцы вольнадумцы цягнуцца да судовае адказнасьці.

З Лодзі паведамляюць, што па загаду ваяводзкае ўлады, сьпісак П. П. С. лявіца пры выбарах у меставую раду ў Згержы і ў Азоркаве ўневажняюцца, дзеля таго што заўважаны на сьпісках кандыдаты, якія былі караны за антыдзяржаўныя выступленьні.

## Град у Галіцы.

Гэтымі днямі паміж Львовам і Перамышлем у Галіцы прайшла страшэнная навальніца з градам. Град зьнішчыў пасевы. Бура таксама натварыла многа шкоды; у іншых мясцовасьцяю разваліла будынкі...

### Са зборніка трыялетаў:

## „Мудра прыгаворка — салодка і горка!"

Просты ў шчасьці — горды,  
у няшчасьці-ж — гліна,  
як шчасьліў, дык цьвёрды —  
просты ў шчасьці горды.

Роўны ўсім, ня цьвёрды  
іншы ёсьць мужчына;  
просты-ж ў шчасьці — горды,  
у няшчасьці — гліна. —

(З кітайскага).

# Што дзеецца ў сьвеце?

## Францыя.

Французскаму ўраду пагражае адстаўка, з прычыны звальненьня машэнскім спосабам з вастрогу раяліста Леона Додэ, якога ніяк ня можа знайсьці французская паліцыя. 1000 французскіх паліцэйскіх шукаюць Леона Додэ, а ён ня гледзячы на гэта зьмясьціў некалькі артыкулаў у газэце. Паліцыя арыштавала рэдактара газэты, але-ж рэдактар ня выдае Л. Додэ.

Ёсьць весткі быццам Леон Додэ находзіцца ўжо ў Лёзанне, знача за граніцаю Францыі; аддавацца ў рукі правасуднасьці Леон Додэ ня хоча.

## Радавы Саюз.

Троцкі, які займае апазыцыйнае становішча да сучаснага савецкага ўраду, якім кіруе Сталін, абвіняе Сталіна ў здрадзе запавядзям Леніна, прыпісвае яму контррэвалюцыю.

Апошнімі часамі апазыцыя пад кіраўніцтвам Троцкага і Зіноўева ізноў энэргічна і старанна працуе.

Апазыцыя тайна выдае свае газэткі і агітуе проці сучаснага савецкага ладу.

Нельга яшчэ прадбачыць вынікаў з гэтых спрэчак у камуністычнай партыі. Магчыма, што будуць унутраныя разрухі. Апазыцыя слабая тым, што яе верхаводы Троцкі і Зіноўеў зьяўляюцца жыдамі, дык работнікі і сяляне, якіх бязумоўна большасьць ня вераць ім, а лічаць трымацца лепш сучаснага парадку. Урадовыя камуністы выгрываюць на антысэмітызьме расейскага народу.

## Нобелеўская прэмія.

З году ў год выдаецца нагарода, так званая Нобелеўская прэмія таму, хто за прошлы год найболей папрацаваў для міру. Хто найболей стараўся не дапусьціць да ваеннай калатні паміж народамі.

Сёлета гэтую прэмію выдалі нямецкаму міністру замежных справаў Штрэзэману.

З прычыны гэтага Штрэзэман на паседжаньні Нобелеўскага Камітэту ў Норвэгіі, у прысутнасьці Нарвэскага Караля Гаакона сказаў прамову ў якой зазначыў: „Я перакананы, што іменна тыя, хто перажыў вайну на фронце, хто бачыў вайну ў яе вялікасьці і ў яе жаху, зьяўляюцца насіцелямі новае будучыны, будучага спакою".

---

кае каханьня, але ня толькі каханьня да прыгожанькіх дзяўчынак, іх сэрцы маюць іншае пачуцьце,—каханьне да сваей роднай Айчынь - Беларусі. І на службу ёй, яны ахвяравалі сваё жыцьцё. Памоцнікам у гэтым зьяўляецца ім друкаванае роднае слова. Кожную нядзелю яны атрымоўвалі з пошты беларускія газэты... Кожную газэту яны прачытвалі аж да подпісі рэдактара і радаваліся над тым, што радаснага нахадзілі і, хоць з болькаю ў сэрцы, але бадзёра спатыкалі калі, што находзілі смутнага і тужлівага, а гэтага апошняга, дык спатыкалася найбалей.

І гэтак вось дачакаліся таго, калі надышоў час перавыбараў самаўрадаў. Аддаючы павагу, разумеючы справу і значэньне самаўрадаў, яны пільна пачалі сачыць за сытуацыяй перавыбараў і прыслухоўвацца, што скажа беларускі цэнтр.

Надыходзілі весткі адна за другімі... З заклікамі да дзейнага ўдзелу ў выбарах... І калі палянафілы трубілі аб каханьні да хлебадаўцаў, дык „Сял. Ніва", як і заўсёды і ўсюды, і на гэты раз, адкідаючы ўсякія арыентацыі, клікала выступіць на выбарах—нацыянальным фронтам. Бо хто-ж як ня сам Беларус для сябе можа быць і ёсьць запраўды найлепшым прыяцелем?!... Пятрук і Тамаш чакалі, што скажа аб выбарах „Наша Праўда". Яны да гэтага часу, неяк давяралі яе кіраўніку і часта сумавалі, калі чыталі на старонках „Нашае Праўды" і „Сял. Нівы" заядлую і жорсткую палеміку. Сумавалі дзеля таго, што сымпатызывалі абоім гэтым часопісям і не ведаючы каму аддацца аканчальна разьдзіралася па чуцьцё, рвалася на кавалкі сэрца.

Але настаў судны дзень, які прыбіў іх човен да берагу... Сталася гэта тагды, калі, каб скампрамітаваць „Сял. Ніву", „Наша Праўды" напісала, што трэба адкінуць беларускі нацыянальны незалежніцкі фронт, ды ісьці адзіным фронтам працоўных. Ня маючы ў сэрцы нічога апрача спагаду да працоўнага чалавека, бяз розніцы хто-б ён ня быў, Пятруку і Тамашу зрабілася нудна, ад словаў „Нашае Праўды", бо успомнілі яны папярэднія выбары, якія прайшлі пад лёзунгам „працоўных" дык, цераз гэта, працоўныя асаднікі папаўшы ў самаўрад іх воласьці, паказаўшы свае шавіністычныя зубы навучылі іх, што значыць яднацца... Не, кажа Пятрук, на гэты раз „Наша Праўда" залгалася. Але, пацьвярдзіў Тамаш, у „Нашае Праўды" нямаш праўды.

Добра, яна кажа ісьці адзіным фронтам бяз розніцы нацыянальнай прыналежнасьці, гэта вельмі прыемна, але толькі на яе старонках, што тычацца нашага жыцьця, нашай сучаснасьці, дык гэтыя словы зьяўляюцца толькі казкаю пра белага бычка... Тое, што скажам для прыкладу, радны нашае гміны Кароль Шыманскі працоўны ў гэтым ня можа быць сумліву, але тое, што ён ніколі не спагадаў Беларусам гэта таксама праўда. Дык не, праўда „Нашае Праўды" няхай астаецца толькі ёй самой, а мы ведаем, што Пятрук, кажа Тамаш—давай арганізаваць сялянства, каб яно выбрала ў самаўрад на гэты раз сваіх працоўных сянян-Беларусаў.

Як згаварыліся так і зрабілі.

Энэргічна і дзейна павялі яны выбары, увайшоўшы ў кантакт з іншымі вёскамі, а цераз тры тыдні выясьнілася, што самаўрадамі тае воласьці да якое належала вёска Галышкі, будзе кіраваць дзесяць беларускіх сялян і адзін Бэрка з мястэчка.

Рашэньне, якое ўзялі на гэты раз Пятрук і Тамаш ня было прыпадкавае. Не, на гэта ёсьць свая гісторыя. Не абышлося тут бяз рэчкі, якая некалі ацьверазіла Зьмітрука, як аб гэтым гаворыць лягэнда, а нядаўна ацьверазіла Пятрука і Тамаша. Яны гэтак зжыліся самі з сабою, што былі ўсюды разам і па палавіне дзялілі і радасьці і гора. Гэта добрае рэч, бо ня можна ад цеmразмернае радасьці ўпіцца, а ад вялікага гора надламацца, калі ёсьць з кім падзяліць іх.

Прыежджы, недзе аж з пад Каліша Вінцэнты Длугавэнт выдаваў сябе за камуніста. Ён вечна тлумачыў, што ўсё тое, што толькі ёсьць на сьвеце, дык зьяўляецца ня чыім, а супольнаю ўласнасьцю ўсяго чалавецтва. Пекныя словы хораша зычалі ў яго „камуністычных" вуснах, але шыла паказала сябе.

Неяк аднаго разу ўзяўшы сетку Пятрук і Тамаш пашлі, каб у рэчцы злавіць якую рыбіну. Маглі яны абыйсьціся і бяз гэтага, але цікавасьць і ахвота проста, дзеля спорту, прыказалі ім зрабіць гэтак. І тут то Длугавэнт сьцьвердзіў, што ён камуніст тагды, калі браць сабе чужое, але калі аддаць сваё, дык не, брат, дудкі!.. Разумеецца, што як толькі хлапцы ступілі некалькі крокаў ракою да якое меў права Длугавэнт, дык адразу Вінцэнты маючы ў руках дубальтоўку змусіў іх аддаць яму сетку. Мала гэтага, на другі дзень пратакол... і плыві справа. Тая справа пачатак якой дала рэчка цьвярозая... за справу з Длугавэнтам прышлося нашым героям адбыць па тры дні арышту пры воласьці і калі яны адбывалі гэта, дык сталіся сьведкамі здарэньня. Адбывалася паседжаньне валаснoе рады. Разглядалася дзьве справы, аб падзеле запамогі на пасеў жыта і аб лятнічым тыдні, г. зн. аб грамадзкай дапамозе на будову паветраннага флоту. Дзякуючы прапановам і нажымам з боку чужацкіх элемэнтаў некалькі беларускіх галасоў ня мелі ніякае вагі, а гэтакім чынам Янку Глебыша пазбавілі права на атрыманьне дапамогі, толькі таму, што ён у часе выбараў да Сойму агітаваў, каб галасаваць за шаснастку, але-ж калі разглядалі справу аб дапамозе на паветраны флот, дык прынялі прапанову Шыманскага аб ападаткаваньні ўсяго жыхарства воласьці і ад гэтае прымусова-ахвярнае павіннасьці Янку Глебыша ня выключылі.

Разумеецца, што запамогу на пасеў асадніку Яроўскаму прызналі, хоць ён атрымаў і бяз гэтага мінуўшаю вясною 1.200 злотых.

Жыцьцё вучыць людзей, гэта найлепшая школа і калі „Наша Праўда" кажа Тамаш кліча нас, каб мы пакахаліся з чужацкім шавінізмам, які ідзе да нас пад маскаю, каб праглынуць, дык гэтага ўжо даволі, каб дазнацца, што „Наша Праўда" не зьяўляецца „Нашаю" і ня ёсьць „Праўдаю", а зьяўляецца левым крылом баламуцтва адзінага шляху з палянафільскім „Беларускім Днём". Бо-ж кіраўнікі і „Нашае Праўды" і „Беларускага Дня"—старыя прыяцелі.

Скарга.

